# Ніва


**БЕЛАРУСКІ ТЫДНЁВІК**


ОРГАН ГАЛОЎНАГА ПРАЎЛЕННЯ БЕЛАРУСКАГА ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНАГА ТАВАРЫСТВА

№ 44 (818) ГОД XVI БЕЛАСТОК 31 КАСТРЫЧНІКА 1971 г. ЦАНА 60 гр.


## У нацыянальнай камісіі ВК ПАРП

14 кастрычніка г.г. адбылося чарговае выязное пасяджэнне нацыянальнай камісіі Ваяводскага камітэта Польскай аб'яднанай рабочай партыі. Гэтым разам адбылося яно супольна з экзекутывай Павятовага камітэта ПАРП у Гайнаўцы і было прысвечана ацэнцы працы гайнаўскага аддзела БГКТ.

У абшырнай інфармацыі аб дзейнасці БГКТ у Гайнаўскім павеце, якую зрабіла ідэалагічная камісія Павятовага камітэта ПАРП, а таксама ў дыскусіі, былі адзначаны сур'ёзныя дасягненні БГКТ на Гайнаўшчыне і накрэслены напрамкі дасканалення бэгакатоўскай дзейнасці ў павеце. У прапановах, выпрацаваных ідэалагічнай камісіяй і зацверджаных экзекутывай ПК ПАРП, між іншым указваецца: дасканаліць дзейнасць гурткоў шляхам сістэматычнага арганізавання сходаў, абапіраючыся на гадавыя планы працы, якія павінны зыходзіць з задач БГКТ і праблем асяроддзя; умацоўваць супрацоўніцтва гурткоў БГКТ з іншымі арганізацыямі; звяртаць большую ўвагу на папулярызацыю гаспадарчых задач; больш клапаціцца пра мастацкія калектывы; дасканаліць супрацоўніцтва праўлення аддзела з вясковым актывам; збіраць экспанаты ў белавежскі музей; паглыбіць супрацоўніцтва ПА БГКТ з аддзелам асветы і культуры.

Варта яшчэ падкрэсліць, што гэты партыйны дакумент важнае месца вызначае настаўнікам беларускай мовы. Гаворыцца ў ім, што кожны настаўнік беларускай мовы павінен быць актыўным дзеячам БГКТ. Таксама пастановы экзекутывы Павятовага камітэта абавязваюць грамадскія камітэты звярнуць большую ўвагу на працу гурткоў БГКТ і аказваць ім адпаведную дапамогу. (рл)



*Беларускі дзяржаўны універсітэт. 30 кастрычніка г.г. спаўняецца 50 год ад дня яго заснавання. На стар. 6 чытайце артыкул «Універсітэт і яго выпускнікі».*

**ЛЮДЗІ ДОБРАЙ РАБОТЫ**

## Сцяпан Баўтручук

Сцяпан Баўтручук з Новай Волі з'яўляецца перадавым гаспадаром у Міхалоўскай грамадзе. Спецыялізуецца ён перш за ўсё ў вырошчванні збожжавых культур і бульбы. У гэтым годзе сабраў ён па 30 цэнтнераў жыта (ранні пулаўскі сорт) з 1 гектара зямельных угоддзяў і такі самы ўраджай аўса (пшэбуй). Пад бульбу Сцяпан Баўтручук даў 300 цэнтнераў гною на 1 гектар зямельных угоддзяў і сабраў ураджай у сярэднім 250 цэнтнераў бульбы з 1 га.

Гадуе ён таксама 4 каровы, ад якіх штомесяц прадае малачарні 1000 літраў малака з вялікім працэнтам тлушчу (4,2 — 4,3 прац.). Варта адзначыць, што селянін Сцяпан Баўтручук прадаў дзяржаве з сёлетняга ўраджаю 850 кілаграмаў жыта і тым самым поўнасцю разлічыўся з сваёй кантрактацыйнай умовы. Бульбы прадасць ён дзяржаве каля 10 тон.

*Тэкст і фота: Я. Цялушэцкі*






■ Нарада варшаўскага актыву БГКТ прысвечана была абмеркаванню дзейнасці клуба і аддзела ў мінулым культурным годзе і накрэсленню напрамкаў працы на 1971—72 культурны год. З інфармацыяй на гэтую тэму выступіў сакратар аддзела Янка Заброцкі. Прысутныя ў дыскусіі звярнулі ўвагу на дасягненні і недахопы гэтай працы. Выступіў таксама з прамовай сакратар ГП Янка Зенюк. Нарада адбылася 15 кастрычніка. Вёў яе старшыня Юрка Бусловіч.

■ 17 кастрычніка пленарнае пасяджэнне бельскага аддзела склалася з двух частак. Першая, урачыстая, прысвечаная была 15-ай гадавіне БГКТ. Даклад аб 15-гадовай дзейнасці беларускага таварыства чытаў член Галоўнага Праўлення і прэзідыума аддзела Янка Суліма. Узнагароды актывістам уручыў сакратар ГП Янка Зенюк. З прывітальным словам выступіў сакратар павятовага камітэта ЗСЛ Эдвард Курзыновіч. У другую частку ўвайшлі арганізацыйныя справы. Па прапанове прэзідыума аддзела (аб чым мы ўжо пісалі) былі адкліканы з прэзідыума Мікалай Гайдук, Янка Войцюк і Аляксандр Хшаноўскі і ўведзены Аляксей Карпюк, Мікалай Зіневіч, Сцяпан Трахімюк і Юрка Лявоцюк. Па прапанове сакратара ГП Янкі Зенюка старшынёй аддзела выбраны Аляксей Карпюк. Ён жа павёў далей пленум і прадставіў заданні ў сувязі са справаздачна-выбарнай кампаніяй у БГКТ.

■ Пленум сямяціцкага аддзела, які адбыўся 17 кастрычніка ў Мілейчыцах, разгледзеў дзве справы. «Заданні гурткоў БГКТ у святле дырэктыў партыі на VI з'езд» — з такім дакладам выступіў старшыня ГП БГКТ Міхась Хмялеўскі. Старшыня аддзела Анатоль Мартыновіч прадставіў інструкцыю ГП адносна справаздачна-выбарнай кампаніі ў гуртках БГКТ, а сакратар аддзела Міхась Вішанка запрапанаваў адказных актывістаў за паасобныя гурткі ў справаздачна-выбарнай кампаніі. Пленум пастанавіў да 15 лістапада правесці перадвыбарныя сходы, а ад 15 лістапада па 15 снежня — справаздачна-выбарныя. У пленуме ўзяў удзел прадстаўнік павятовага ўпраўлення ўнутраных спраў ПРН у Сямяцічах Крыстына Пэлшынская.

■ 19 кастрычніка пасяджэнне прэзідыума ГП адбылося ў Варшаве супольна з прадстаўнікамі прэзідыума варшаўскага аддзела. На павестцы дня была ацэнка дзейнасці варшаўскага аддзела ў мінулым культурным годзе. Інфармацыю аб працы злажыў яго сакратар Янка Заброцкі, а адказваў на шматлікія пытанні старшыня аддзела Юрка Бусловіч. У шырокай дыскусіі выяўлены былі дасягненні і недахопы працы праўлення аддзела, сцверджана было, што існуе там добры актыў. Члены прэзідыума ГП добра ацанілі дзейнасць аддзела. У гэтым пасяджэнні ўзялі таксама ўдзел прадстаўнік упраўлення ўнутраных спраў сталічнай рады нарадовай Казімера Хайноў, прадстаўнік аддзела культуры сталічнай рады нарадовай — Чэслава Хмялеўская, сакратар сталічнага праўлення ТППР Чэслаў Пасонь і прадстаўнік універсітэцкага праўлення ЗМВ Базылі Кунах. Разгледжаны былі таксама ўнутрыарганізацыйныя справы ГП. (мс)

**ВЫХОДЗЯЧЫ З ДЫРЭКТЫЎ ПАРТЫІ**




З трыбуны залы пасяджэнняў ВРН у Беластоку адзін малады радны, настаўнік па прафесіі (прозвішча яго мне вядомае) прадставіў сабраўшымся на сесію вось такую гісторыю: селянін з Беластоцкага павета рашыў прадаць старога каня. Дык павёў яго на скупачны пункт у Заблудаве. Аднак класіфікатар прызнаў, што яго конь ужо да скупкі не надаецца. Засмучаны гаспадар, злосны, што патраціў каштоўны час, паваlokся са сваім «буланым» дамоў. Па дарозе, нібы выпадкова, сустрэў нейкага незнаёмага «пана». Завязалася гутарка, у час якой селянін перад гэтым «панам» красамоўна выліў сваю злосць на ўраднікаў і на пануючыя парадкі. На здзіўленне гаспадара, незнаёмы запрапанаваў яму, што купіць у яго гэтага няшчаснага каня. Вядома, селянін не таргаваўся, адпусціў «буланага» за паўцаны, каб толькі пазбыцца клопату. Аднак пацікавіла яго, што будзе далей з гэтым конікам. Пайшоў тады следам за купцом. І тут яшчэ болей здзівіўся, бо пасля нейкага часу пазнаў свайго «буланага» сярод коней, якія ў той жа дзень былі куплены на заблудаўскім скупачным пункце.

А ў дырэктывах (пункт 68) чытаем: *...Трэба палепшыць функцыяніраванне вясковага рынку і распазнанне яго патрэб, болей спраўна прымаць ад сялян сельскагаспадарчыя прадукты, забяспечыць інфармацыю, фінансавае абслугоўванне, тэхнічна-эканамічныя парады, якія садзейнічалі б росту прадукцыйнасці гаспадарак і лепшаму выкарыстанню сродкаў вытворчасці. Неабходна прызначыць больш грошай на разбудову пунктаў скупкі і складаў, забяспечыць іх тэхнічнымі прыладамі і сродкамі транспарту, прыгоднымі для перавозкі жывёл, агародніны і фруктаў...»*

Чытаючы гэтыя накіраванні нашага дзеяння, прыпомнілася мне замалёўка з вёскі Шчыты. Некалькі гадоў таму назад позным асеннім вечарам са здзіўленнем убачыў я селяніна, які запрагаў каня ў воз, нагружаны цукровымі буракамі. «Мушу ехаць нанач, каб на

Працяг на стар. 4

 

# УНІВЕРСІТЭТ І ЯГО ВЫПУСКНІКІ

Беларускі дзяржаўны універсітэт імя У. І. Леніна ў Мінску — адзін са здабыткаў тых велічных перамен, якія прынясла перамога Кастрычніцкай рэвалюцыі на Беларусі. Ён быў заснаваны згодна з Ленінскім дэкрэтам аб адкрыцці шэрагу новых універсітэтаў у маладой Краіне Саветаў.

30 кастрычніка 1921 года адбылося ўрачыстае адкрыццё Беларускага дзяржаўнага універсітэта.

Пачаткова працавала ў ім два факультэты: медыцынскі і грамадскіх навук. У першым навучальным годзе займалася на іх усяго 1390 студэнтаў. Але ішлі гады, развівалася сацыялістычная гаспадарка і культура Беларусі, расло запатрабаванне на спецыялістаў з вышэйшай адукацыяй самых разнастайных галін — развіваўся і разрастаўся Беларускі універсітэт. Ён з'явіўся базай для разбудовы сістэмы вышэйшай адукацыі ў БССР. На базе медыцынскага факультэта універсітэта быў утвораны Мінскі медыцынскі інстытут, факультэт народнай гаспадаркі пераўтварыўся ў Беларускі інстытут народнай гаспадаркі, хіміка-тэхналагічны факультэт даў пачатак Беларускаму палітэхнічнаму інстытуту, а педагагічны факультэт даў аснову Мінскаму педагагічнаму інстытуту. Аднак гэтае адгалінаванне не спыняла хуткага развіцця самога універсітэта. Сёння ён з'яўляецца гіганцкай вышэйшай навучальнай установай. У ім на адзінаццаці факультэтах навучаецца звыш 18 тысяч студэнтаў, а прафесарска-выкладчыцкі персанал налічвае 1261 чалавек. Універсітэт мае тры аддзяленні: стацыянарнае, вячэрняе і завочнае.

За пяцьдзесят год сваёй дзейнасці (з чатырохгадовым перапынкам у час гітлераўскай акупацыі Беларусі) універсітэт закончыла 29 тысяч чалавек. Яго выхаванкі сёння працуюць у розных галінах народнай гаспадаркі БССР і СССР, у навучальных і навукова-даследчых інстытутах, у акадэміях навук СССР і саюзных рэспублік, у сярэднім школьніцтве. У сценах універсітэта вырас вялікі атрад вучоных. У ім абаранілі дысертацыі 905 доктараў і кандыдатаў навук. Вучоныя універсітэта апублікавалі тысячы навуковых прац.

Беларускі дзяржаўны універсітэт адным з першых увайшоў у Міжнародную асацыяцыю універсітэтаў. Ён вядзе шырокі абмен вучонымі і студэнтамі з многімі універсітэтамі на свеце. Цяпер у БДУ займаецца 300 студэнтаў з 21 краіны свету.

Вялікую ролю адыграў БДУ ў падрыхтоўцы спецыялістаў для нашай краіны, Польскай Народнай Рэспублікі. Яго выпускнікі сёння працуюць у Варшаўскім універсітэце, у беластоцкіх вышэйшых навучальных установах: Медыцынскай акадэміі, Вышэйшай інжынерскай школе і Вышэйшай настаўніцкай школе, у дзяржаўных установах і сярэднім школьніцтве. Сярод працаўнікоў «Нівы» — трое з'яўляюцца выхаванкамі БДУ.

Побач са штодзённай сумленнай працай для дабра нашага краю яны ўносяць свой уклад у развіццё навукі і асветы ПНР. Дацэнт др Васіль Чэчуга — навуковы працаўнік Медыцынскай акадэміі ў Беластоку — шэраг год займаецца вывучэннем жывёльнага свету азёраў і рэк Беласточчыны. Багаты плён сваіх даследаванняў апублікаваў і публікуе ў польскіх і замежных навуковых часопісах. Доктар Уладзімір Юзвюк апублікаваў манаграфію Гайнаўскага павета Беластоцкага ваяводства. Мгр Лідзія Гайдук разам з аўтарам сённяшняга артыкула апрацавалі падручнікі па беларускай мове для трэцяга (два выданні), чацвёртага (тры выданні) і пятага (два выданні) класаў пачатковай школы, склалі абавязваючую цяпер праграму навучання беларускай мовы ў пачатковых школах, зараз працуюць над граматыкай беларускай мовы для V — VIII класаў. Аўтар гэтага артыкула адрэдагаваў падручнік беларускай мовы для другога класа, напісаў «Гутаркі па роднай гісторыі», якія публікаваліся на старонках «Нівы».

Выпускнікі БДУ ў Польшчы з'яўляюцца актывістамі Таварыства польска-савецкай дружбы.

Шэраг выхаванкаў БДУ прымае актыўны ўдзел у дзейнасці Беларускага грамадска-культурнага таварыства, працуе ў навуковым гуртку пры БГКТ, літаратурна-мастацкім аб'яднанні «Белавежа», у лектарскай групе пры ГП БГКТ.

І заўсёды яны з удзячнасцю ўспамінаюць Беларускі дзяржаўны універсітэт, сваіх па-бацькоўску сардэчных прафесароў-выхавацеляў і шчырых сяброў-студэнтаў. Кожны з выхаванкаў БДУ лічыць гады сваёй вучобы ў сценах гэтай шанаванай вышэйшай навучальнай установы найпрыгажэйшымі гадамі свайго жыцця.

*Мікалай Гайдук*

*Фота: Э. Трыгубовіч*



*Студэнты БДУ на практычных занятках у падлікова-вылічальным цэнтры універсітэта.*



*Кандыдат гістарычных навук В. Рубцэвіч разам са студэнтамі БДУ праводзіць уступную апрацоўку скарбу арабскіх манет VIII — X стагоддзяў, знойдзеных на тэрыторыі Беларусі.*



*Прафесар М. А. Жыдовіч — вядомы вучоны і спецыяліст па беларускай мове — кансультуе студэнтаў.*

## КУТОК ГАСПАДЫНІ

## ШТО РАБІЦЬ, КАБ ДОБРА ЗВАРЫЦЬ

### ГАРБУЗЫ

Гарбузы ўрадзілі. Можна з іх рабіць смачныя малочныя супы, можна іх тушыць і, працершы праз сітка, дадаваць да дрожджавага цеста (пірог тады атрымаецца пульхны, доўга ўтрымлівае вільгаць), можна таксама тушыць з памідорамі і вострымі прыправамі і падаваць у якасці салата да мяса ці рыбы. Можна таксама замарынаваць гарбуз на зіму.

### СУП З ГАРБУЗА

Калі хто любіць суп гусцейшы, павінен узяць 1 кг гарбуза на 1 літр малака, але наогул хопіць і паўкілаграма. Гарбуз трэба абабраць і выняць з яго сярэдзіну. Затым парэзаць на кавалкі, палажыць у гарачую, пасоленую ваду і зварыць. Калі гарбуз будзе мяккі, адцадзіць яго і працерці праз сіта. Тым часам закіпяціць малако, падрыхтаваць літае цеста: да 4—5 лыжак мукі ўбіць 2 яечкі і вельмі добра расцерці і збіць драўлянай лыжкай, крыху пасаліць. Ліць цеста на кіпячае малако тонкім струменьчыкам, а пасля дадаць працерты гарбуз, пасаліць, дадаць крыху цукру і варыць яшчэ 5 мінут.

### БУЛКА З ГАРБУЗОМ

На булку трэба ўзяць: 1 кг мукі, 1 кг гарбуза, 2 яечкі, 5 дэкаў дрожджэй, крыху цёплага малака, шклянку цукру, паўпачкі масла ці маргарыну, соль, крыху сцертага на тарцы мускатнага арэха.

Гарбуз абабраць, адкінуць сярэдзіну, парэзаць на невялічкія кавалачкі, даліць шклянку вады і разварыць. Пасля працерці праз сіта. Да мукі дадаць распушчаныя ў цёплым малацэ дрожджы, гарбуз, яечкі і рэшту складнікаў, добра вымясіць цеста і паставіць у цёплым месцы каб падрасло. Цеста падзяліць на чатыры часткі, зрабіць з яго даволі тоўстыя каўбаскі і пераплесці іх так, каб атрымалася прадаўгаватая халка. Палажыць яе на бляшцы, змазанай тлушчам і, калі халка крыху падрасце, спячы яе ў духоўцы.

### МАРЫНАВАНЫ ГАРБУЗ

На 1 кг абабранага і ачышчанага гарбуза трэба ўзяць 3/4 літра трохпрацэнтнага воцату, 1,5 шклянкі цукру, крыху гваздзікі, кавалак карыцы (цынамону). Ачышчаны гарбуз нарэзаць прыгожымі, укоснымі кавалачкамі, крыху пасаліць кіпячую ваду і абварыць на працягу 5 мінут. Абсушыць гарбуз на сіце. Падрыхтаваць сіроп з воцату, цукру і прыпраў, улажыць у яго гарбуз і варыць яго, пакуль аж не стане амаль празрысты. Калі гарбуз астыне, зкладзіць яго ў чыстыя слоікі, абвязаць цэлафанам. Марынаваны гарбуз вельмі добры з мясам або якімі-кольвек клёцкамі.

*Гаспадыня*




Надышоў верасень сорак трэцяга года. Нашы часці рваліся да Кіева. Але фарсіраваць Днепр — справа не толькі цяжкая. Нямецкае камандаванне лічыла, што гэта наогул немагчыма, і спадзявалася з дняпроўскіх рубяжоў пачаць пераможнае контрнаступленне. Высокі правы бераг быў старанна ўмацаваны, а масты падрыхтаваны да знішчэння. Нізкі левы бераг ляжаў як на далоні, і там прастрэльваўся кожны куст.

У пачатку верасня вялікае танкавае злучэнне Чырвонай Арміі прарвала абарону праціўніка. Наша камандаванне выдатна разумела, што ўсе масты будуць узарваны і гэта надоўга затрымае фарсіраванне Дняпра. Адзіны выхад — уварвацца на правы бераг разам з адступаючымі часцямі праціўніка.

Партызанскі атрад імя Катоўскага атрымаў загад разведаць падходы да моста ў раёне Канева... Вечарам разведчыкі пайшлі да моста. А раніцай радыст перадаў шыфроўку на Вялікую зямлю: «Мост замініраваны. Навокал шмат гармат і зенітак. Правы бераг вельмі ўмацаван. Схему размяшчэння агнявых пунктаў перадам дадаткова».

Адказ быў кароткі: «Мост неабходна захаваць. Танкі падыдуць у чатырнаццаць нуль-нуль».

Захаваць мост. Зусім не партызанская справа. Узарваць — гэта прасцей, гэта партызаны ўмелі. А захапіць мост з боем і ўтрымаць яго да падыходу танкаў зусім не пад сілу невялікаму партызанскаму атраду.

— У атрадзе дзвесце чалавек. А цераз мост адступае цэлая армія з танкамі і артылерыяй. Мост нам не адбіць, а атрад загіне напэўна, — заявіў Сабко.

Запярэчыць яму не было чым... І тут устаў Крайс:

— Усім атрадам пераправу не захапіць. Дзве роты супраць арміі — гэта смешна. Але два чалавекі... Карацей кажучы, у мяне ёсць план.

—Мы вас слухаем, — сказаў камандзір атрада.

— Учора мы перахапілі нямецкую штабную машыну з нейкім важным палкоўнікам. Ён запэўнівае, што прыбыў са стаўкі фюрэра і выконвае асабістыя даручэнні самога Гітлера. На жаль, дакументаў, якія пацвярджалі б яго паўнамоцтвы, няма. Гэта ўскладняе справу. Але можна спадзявацца, што ў мітусні адступлення наўрад ці хто-небудзь пачне правяраць дакументы «оберста са стаўкі». Я прапаную...

...«Опель-капітан», што бліскаў лакам, вырулiў на палявую дарогу і неўзабаве дагнаў адступаючую калону немцаў. Паважна і стрымана сігналячы, «опель-капітан» абагнаў грузавікі, набітыя фашысцкай салдатнёй, даўгаствольныя гарматы і танкі. Фанабэрысты оберст ледзь звяртаў увагу на прывітанні афіцэраў, а хмуры вахмайстар, што сядзеў за рулём, спрытна лавіраваў паміж танкамі і машынамі.

Камандаванне атрада прыняло план Крайса толькі таму, што іншага выйсця проста не было. Але Сабко згадзіўся на гэта толькі пры адной умове: калі з Крайсам пашлюць яго. Як ні адгаворваў яго камандзір атрада, Сабко здолеў даказаць, што ніхто не ведае Крайса так добра, як ён, ніхто не зможа быць Крайсу лепшым партнёрам, чым ён, і наогул начальнік штаба павінен бачыць малюнак адступлення немцаў сваімі вачыма. Але пра сябе ён думаў і аб іншым: ніхто лепш за яго не зможа праверыць Крайса да канца, а гэта аперацыя, напэўна, паставіць усе кропкі над «і».

Так Сабко і апрануў форму вахмайстра. «У крайнім выпадку — і яго, і сябе!» — думаў ён, абмацваючы закладзеныя пад сядзенне гранаты.

«Опель-капітан» з ходу выскачыў на мост і рэзка затармазіў. Оберст выйшаў з машыны і, не гледзячы на вартавога, крыкнуў:

— Дзе камендант? Паклікаць!

Камендант прыляцеў брудны, нягалены. На мундзіры не хапала гузікаў.

— Пан палкоўнік... — пачаў ён.

— Адставіць! — завішчэў Крайс. — Што за выгляд?! На каго вы падобны, обер-лейтэнант?! Вы не афіцэр доблеснай арміі фюрэра, а брудная партызанская свіння!!!

— Вінаваты, пан палкоўнік... Адступленне... Я трое сутак не спаў...

— Гэта не тлумачэнне! — крычаў Крайс. — У любой сітуацыі нямецкі афіцэр павінен выглядаць узорна! Фюрэр даў вам гэту форму не дзеля таго, каб вы яе ганьбілі!!

— Так точна, пан палкоўнік! Але я...

— Маўча-а-аць!!! Яшчэ ўчора фюрэр загадаў мне ўзняць воінскі дух у адыходзячай на новыя рубяжы арміі, і я гэта зраблю! Чуеце, обер-лейтэнант?! Як бы вы гэтаму ні супраціўляліся, загад фюрэра будзе выканан!!! І перш за ўсё я спыню гэта ганебнае адступленне! Хто дазволіў прапускаць войскі праз мост?.. Не ведаеце?! Так і я думаў! Здраднік!!! Усюды адны здраднікі!!! — зусім зайшоўся палкоўнік. — Зараз жа закрыць пераправу! Усіх, хто перайшоў на правы бераг, вярнуць назад! Фюрэр верыць, што з гэтага рубяжа мы пачнём новае пераможнае наступленне!

Камендант спалохана казырнуў і пабег выконваць загад.

*(Працяг будзе)*



 

# ТРЫБУНА чытачоў

## НА ГАЙНАЎСКАЙ ВЁСЦЫ

У павеце пачаўся рух абавязацельстваў. Іншы ён на гайнаўскай вёсцы ад рабочага, фабрычнага. Але адно тут супольнае — сардэчная патрыятычная ахвота дапамагчы таварышу Герку, кіраўніцтву партыі, краіне.

У грамадзе Чыжы спецыялісты падлічылі, што сярод 683 гаспадароў 301 залічваецца ў першую, добра гаспадаруючую групу, 368 — у другую. У іх там толькі 14 гаспадарак занядбаных.

Уся ўвага грамадскай улады і дапамога павета павінна быць накіравана на тых з другой групы, каб далучыліся яны да першай.

Гэта прыклад гаспадарскага падыходу. Няма што аглядацца на 14 «здыхлякоў». Варта падумаць над сотнямі гаспадарак, якім крыху дапамогі прыдасца, каб увайсці на поўную і выдайную прадукцыю.

У кожнай грамадзе Гайнаўскага павета ёсць апрацаваная праграма, каб павялічыць пагалоўе свіней і кароў. Гэта вельмі важны адрэзак з агульнай гаспадаркі грамады і павета. За 1971 год гайнаўскія гаспадары не саромяцца. Павет добра выконвае гадавы план. Але гайнаўскія гаспадары прынялі далейшыя абавязацельствы, напрыклад, дадаткова выгадаваць 2400 кароў.

У Чыжах, Новаберазове, Старакорніне, Палічнай, Дубічах Царкоўных — усюды гаспадары настаўляюцца на лепшую, інтэнсіўнейшую працу. Каб больш было мяса і хлеба! Пра гэта гаворыцца на партыйных і вясковых сходах. Сяляне адчуваюць, што ў іх намаганнях вядзе іх партыя. Усе нашы людзі прымаюць праграму партыі за сваю. За 8 месяцаў гэтага года ў партыю ўступіла 16 гаспадароў. Гэта таксама падтрымка!

*Кастусь Ляшчынскі*

## ГАСПАДАРНАСЦЬ

У сяле Крывяцічы стаяў нявыкарыстаны будынак па былым пункце скупу малака. Каб не свяціў ён пусткай, сельскагаспадарчы гурток уладкаваў там электрычны млын. Цяпер жыхары Крывяціч і Мора не вязуць малоць збожжа ў адлеглую Орлю, а мелюць на месцы ў Крывяцічах. Млын салідна абслугоўвае Іван Клін.

*Ваня Кірызюк*

## БУДАВАЦЦА, АЛЕ ЯК?

Будаўніцтва ў вёсках — рэч неабходная. Бо, каб падняць гадоўлю, трэба мець памяшканні на яе. І сяляне будуюцца. І напрамак правільны — будова хлявоў, клуняў. Аднак выступаюць тут вялікія цяжкасці. І ўжо на самым пачатку. Паспрабуйце атрымаць праект на будову ў «архітэктуры»! Тут сапраўды трэба мець цярплівасць і здаровыя нервы. Трэба наездзіцца ў «архітэктуру»: разоў 5—6, а то і больш. І чакаць на дазвол-праект найменш паўгода. А час селяніну вельмі дарагі.

Чаму гэта так цягнецца? Калі ўрэшце і ў гэтай галіне навядзецца парадак і будзе аб'яўлена рашучая барацьба з бюракратамі?

*П. Дубовіч*

## ПАЛОМЛЕНЫЯ ЛАЎКІ

Прыкра глядзець на паломленыя лаўкі на аўтобусным прыпынку ў Сафіполю, Беластоцкага павета. На гэтым прыпынку ёсць трохсценная і пад дахам пачакальня. Некалі былі тут пастаўлены з думкай аб выгадзе пасажыраў новыя лаўкі. Зараз з лавак — куча ламачча. Невядома чаму іх знішчылі. Вядома толькі, што вандалізм не найлепш сведчыць аб маладых пастаянных пасажырах з Сафіполя. (яц)

## Кансультацыя ЮРЫСТА

ПЫТАННЕ: Ці можа атрымоўваць пенсію ўласнік сельскай гаспадаркі, які працаваў на прадпрыемстве або ў дзяржаўнай установе?

АДКАЗ. Поўную пенсію атрымоўвае селянін, якому па прычыне працы на прадпрыемстве або ў дзяржаўнай установе прыслугоўвае пенсія, калі даход з яго гаспадаркі, аблічаны для падатковых мэтаў, не перавышае 14.000 зл.

Калі даход аблічаны для падатку перавышае 14.000 зл., але не большы ад 20.000 зл. стрымліваецца выплата паловы пенсіі.

Гэта не адносіцца да тых, хто стаў інвалідам ад няшчаснага выпадку ў час працы. Пенсія тады выплачваецца поўнасцю, незалежна ад даходу, які дае гаспадарка.

## ЦІКАВАЯ ВЫСТАЎКА

9 кастрычніка ў клубе Беластоцкага жыллёвага кааператыву ў раёне Тысячагоддзя была адкрыта фотавыстаўка Зыгмунта Цясельскага, прысвечаная 50-ай гадавіне стварэння Рэвалюцыйнага саюза мангольскай моладзі. Адкрыў выстаўку сакратар пасольства Мангольскай Народнай Рэспублікі ў Варшаве тав. Чымідарж, а знаёміў з ёй аўтар выстаўкі. Сакратар пасольства МНР цікава на польскай мове расказваў аб жыцці сваёй краіны. Тав. Чымідаржа суправаджалі сакратар гарадскога камітэта ПАРП у Беластоку тав. Ёка і прэзас БСМ тав. Баравік.

Выстаўка прыгожая і карысная. Яна пераканаўча адлюстроўвае жыццё Манголіі.

*Васіль Петручук*

## ВЕСТКІ З ДУБІЧ ЦАРКОЎНЫХ

У Дубічах Царкоўных пачаліся работы над пашырэннем вуліцы. Будзе яна мець шырыню 7 метраў і паабапал яе будуць зроблены ходнікі. Работамі кіруе Іван Майстровіч.

* * *

Сёлета бульба ў Дубічах Царкоўных была слабейшая, чым у мінулым годзе, хоць і не такая слабая, як спадзяваліся гаспадары. Там, дзе апрача гною прымяняліся мінеральныя ўгнаенні, ураджай выпаў значна лепшы. Таксама на нізкіх месцах бульба была лепшая.

У грамадзе Дубічы Царкоўныя сяляне масава куплялі мінеральныя ўгнаенні. Частку з іх прызначылі пад зімовыя культуры, рэшту — пад яравыя, на вясну. Умовы спрыяльныя: да кастрычніка ўгнаенні былі таннейшыя і былі яны блізка: у магазіне ў Дубічах. Калісь трэба было цэлы дзень траціць у Кляшчэлях, каб купіць і прывесці іх дамоў. Цяпер інакш — культура! Найбольш угнаенняў выкупіў у Дубічах Царкоўных Пётр Качко.

*М. Панфілюк*




Дарагое Сэрцайка!

Я вучуся ў сярэдняй школе. Пішу да цябе не таму, каб ты мне параіла, а таму, што мяне цікавіць, якое ты зоймеш становішча ў гэтай справе. Хто з нас мае рацыю: я ці мае сяброўкі па класу. А было гэта так.

Нядаўна я ўгаварылася з калегамса старэйшага класа нашай школы на фільм. Сустрэліся мы каля аднаго з кінатэатраў нашага горада. Ішоў вялікі дождж. Мы хацелі пайсці ў кіно раней, г.зн. на 18.00 гадзіну, але не атрымалі білетаў. А на пазнейшы сеанс я не згадзілася, бо гэта ўжо запозна для вучаніцы. Што тады рабіць? Мой калега запрасіў мяне тады да сябе дахаты, бо яны жывуць непадалёк кіно, да якога мы хацелі ісці. Я згадзілася. Пайшлі мы да бацькоў Янкі. Маці пачаставала нас смачнай кавай, пагаварылі, паглядалі альбомы і маркі, бо Янка захапляецца філатэлістыкай.

Так мы правялі больш гадзіны часу, і Янка адвёў мяне на аўтобус. Я паехала дамоў.

На другі дзень сяброўкі спыталі мяне, як я правяла, як яны назвалі, «рандку». Я ім і ўсё расказала. Пачалі смяяцца з мяне, што я пайшла да бацькоў Янкі. Хіба думаю за Янку выходзіць замуж, бо ў іншым выпадку не выпадае. А я, дарагое Сэрцайка, трактую Янку як калегу, думаю так сама і ён да мяне адносіцца. Адкажы мне, Сэрцайка, ці сапраўды я паступіла нетактоўна?

*Кася з Б.*

Кася! Напэўна ты паступіла добра. Замест таго, каб хадзіць па дажджы або сядзець у задымленай кавярні, ты правяла добра і весела час. Вы правялі час сапраўды па-сяброўску. Таму нічога тут смешнага і нетактоўнага не бачу, хіба толькі тое, што твае сяброўкі павінны ў цябе вучыцца паводзіць сябе ў адносінах да хлопцаў.

*Сэрцайка*



*Новае Ляўкова.* *Фота: М. Цялушэцкі.*

## ГУРТОК — ДРУЖНАЯ СЯМ'Я

Пачаўся новы культурна-асветны сезон. Ажывіцца ў гуртках праца. Перш за ўсё пачнуцца гонкі за п'есамі, вершамі, гумарам, пачнецца падзел роляў... і пачнецца бяда. Камусьці не спадабалася быць Васькам ці Грышкам і ў сярэдзіне падрыхтоўкі да выступлення на сцэне ўсё разлятаецца. Развальваецца пастаноўка, развальваецца дзейнасць у гуртку. Ці можна гэта неяк папярэдзіць? Можна. У гуртку ж знаходзяцца людзі і кожны мае свае ўласныя зацікаўленні, іх іменна трэба выкарыстаць. Абмяркуем такую форму працы: групы зацікаўлення.

1. Драматычная група (у яе ўвойдуць члены, у якіх ёсць тэатральныя здольнасці).

2. Харавая група (добрыя спевакі, і не толькі з гуртка, старацца заахвоціць старэйшых).

3. Дэкламатарская група (добрыя дэкламатары).

4. Група збіральнікаў гумару.

З кожнай групы старшыня ў паразуменні з усім праўленнем выбярэ кіраўніка, які будзе адказны за дадзеную групу. Падкажу некалькі практычных парад. Члены драматычнай групы шукаюць матэрыял на сцэну. Тут маю на думцы п'есы на агляд, вечарыну, акадэмію і г.д. Харавая група збірае адпаведны (у залежнасці ад урачыстасці) песенны матэрыял, развучвае яго, рыхтуе песні на конкурс. Дэкламатары самі падбіраюць вершы (адпаведныя для кожнай вечарыны ці акадэміі), абмяркоўваюць іх на пасяджэнні гуртка.

Калі кожная група падрыхтуе як трэба, што да яе належыць, не будзе праблемы хутка і добра падрыхтаваць пастаноўку на сцэну. Старшыня будзе тады толькі кіраваць і шукаць лепшых метадаў і напрамкаў у культурнай працы гуртка ў асяроддзі. Трэба адзначыць, што такі падзел працы гуртка будзе патрабаваць ад членаў уласнай ініцыятывы. Тут кожны будзе адчуваць сябе адказным за выкананне свайго ўласнага задання.

Не кожны аднак нарадзіўся з тымі ці іншымі здольнасцямі. Шмат ёсць членаў (можна іх называць пакрыўджанымі), якія ў час падрыхтоўкі пастаноўкі застаюцца збоку. Ім можна даверыць іншае заданне. Арганізаваць гурток зацікаўлення — разьбы, фатаграфікі ці рысунку. А прапанаваць збіраць фальклор? У статуце таварыства выразна гаворыцца, што збіранне фальклору з'яўляецца адной з форм працы БГКТ. Раздзяліць тады членам, якія не ўдзельнічаюць у аматарскім руху, заданні збіраць народныя песні, гумар, казкі, легенды. Заахвоціць пакапацца ў мінулым сваёй вёскі: чаму яна так называецца: Кошкі, Рыбалы ці Чэхі? Гэта ж цікавая тэма. Не толькі для тых, хто будзе збіраць весткі, але і для ўсіх членаў гуртка, для тых таксама, хто ў будучыні зойме наша месца.

*Вераніка Леанюк*

## ХОДНІКІ Ў НОВАЙ ВОЛІ



Шпаркім тэмпам ідзе зараз пракладка новых ходнікаў ў вёсцы Новая Воля, Беластоцкага павета. Кладзе іх брукаршчык Браніслаў Дмухоўскі (на здымку) з Міхалова. Брукаршчыку вялікую дапамогу ў пракладцы ходнікаў і кравэнжнікаў аказваюць мясцовыя жыхары, якія абавязваліся кожны насупраць свайго панадворка давесці пясок, ходнікавыя пліты, кравэнжнікі, а таксама дапамагчы ў пракладцы ходнікаў.

Варта адзначыць, што ў Новай Волі, вёсцы даўжынёю да 1,5 кіламетра, дагэтуль не было ходнікаў. Зрух у пракладцы ходнікаў наступіў у гэтым годзе.

*Тэкст і фота: (яц)*

## КІНО

### ГАЙНАЎСКІ ПАВЕТ

**Кляшчэлі**

„Julia, Anna, Genowefa", (polski), 2—3 „Zmartwychwstanie" (radz.), I i II cz. 4—7.

**Нараўка**

„Rezydent wywiadu" (radz.), „Trzy topole" (radz.), 3—7.

**Нарва**

„Kamo znany osobiście" (radz.), „Kamo niebezpieczna misja" (radz.), 4—7.

**Дубічы Царкоўныя**

„Babcia, dziadkowie i ja" (radz.), „Wierność" (radz.), 3—7.

**Арэшкава**

„Samolot odlatuje o 9-tej" (radz.), „Chewsburska ballada" (radz.), 6—7.

### БЕЛЬСКІ ПАВЕТ

**Боцькі**

„Kamo znany osobiście" (radz.), „Kamo niebezpieczna misja" (radz.), 4—7.

**Орля**

„Stopień ryzyka" (radz.), „Szerszeń" (radz.), 4—7.

**Райск**

„Biała karawana" (radz.), „Zdradziecki strzał" (radz.), 4—7.

### САКОЛЬСКІ ПАВЕТ

**Крынкі**

„Cierpkie wino" (radz.), 2—3. „Czas rozłąki" (radz.), 4—5. „Lebiediew contra Lebiediew" (radz.), 6—7.

**Янаў**

„Tagebuch" (polski), 4—7.

### СЯМЯЦІЦКІ ПАВЕТ

**Нурэц**

„Trzy klucze" (jugosł.), 2—3. „Siedem niańiek" (radz.), 4—5. „Człowiek z przeszłością" (radz.), 6—7.

**Мельнік**

„Kardiogram" (polski), 2—3. „Czas rozłąki" (radz.), 4—5. „Testament uczonego" (radz.), 6—7.

**Мілейчыцы**

„Ballada o dziewczynie" (wietnamski), 2—3. „Rezydent wywiadu" (radz.), 4—5. „Czekajcie na listy" (radz.), 6—7.

### ДУБРОЎСКІ ПАВЕТ

**Сухаволя**

„Cierpkie wino" (radz.), „Towarzysze podróży" (radz.), 4—7.

**Новы Двор**

„Był sobie dziad i baba" (radz.), „Dziewięć dni jednego roku" (radz.), 4—7.


# Ніва

Adres redakcji: Białystok, ul. Wesołowskiego 1. Telefony: red. naczelny 2-10-33, centrala 2-32-41 do 45. Warunki prenumeraty: miesięcznie — 2,40 zł, kwartalnie — 7,20 zł, półrocznie — 14,40 zł, rocznie — 28,80 zł. Prenumeratę przyjmują wszystkie placówki pocztowe i listonosze. Wpłaty na prenumeratę indywidualną należy dokonywać na konto PUPiK „Ruch" Nr 102-7-161 NBP Białystok I Oddział Miejski. Na odwrocie blankietu należy podać okres prenumeraty i tytuł zamawianego pisma. Zamówienia ze zleceniem wysyłki za granicę przyjmuje — Przedsiębiorstwo Kolportażu Wydawnictw Zagranicznych „Ruch" Warszawa, ul. Wronia 23. Nr konta PKO 1-6-100024. Zamówienia z krajów europejskich jak i zamorskich należy kierować pod adresem Przedsiębiorstwo Kolportażu Wydawnictw Zagranicznych „Ruch", Warszawa, ul. Wronia 23.

